# ІСКРЫ ІЛЬІЧА





ВЕРАСЕНЬ 1933 № 13

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
І НАРКАМАСВЕТЫ

ГОД ВЫДАННЯ 5
ВЕРАСЕНЬ 1933

№ 13


# Вучыцеся ўпарта, шмат, старанна

ЛІСТ т. ВАРАШЫЛАВА АКЦЯБРАТАМ



Акцябраты Смольнінскага раённага лагеру паслалі праз газету Ленінградскіх піянераў—„Ленинские Искры“ ліст тав. Варашылаву. У лісце яны расказалі як адпачываюць, як моцна яны любяць Чырвоную армію.

Тав. Варашылаў даслаў акцябратам наступны адказ:

„Мілыя рабяткі, велізарнейшы чырвонаармейскі дзякуй за добры ліст. Малайцы, што пад кіраўніцтвам сваіх важатых добра праводзіце лагерны час.

Расціце, мацнейце і добра, як трэба будучым большэвікам (а можа быць, вы ўсе ўжо большэвікі,—тым лепш) вучыцеся. Вучыцеся ўпарта, шмат, старанна. Веды—вялікая сілішча. З ведамі вы ўсе будзеце большэвікамі-веліканамі.

Прывітанне.

Чырвонаармеец
К. ВАРАШЫЛАЎ.

РАБЯТА! АБАГАВАРЫЦЕ ГЭТЫ ЛІСТ тав. ВАРАШЫЛАВА НА ЗАНЯТКАХ У ШКОЛЕ, НА ЗБОРАХ ЗОРАЧАК. АДКАЖАМ НА ЛІСТ НАРКОМА—ЯШЧЭ ЛЕПШЫМ ЗАСВАЕННЕМ ВЕДАЎ, АКУРАТНЫМ НАВЕДВАННЕМ ШКОЛЫ, ПРЫКЛАДНАЙ ДЫСЦЫПЛІНАЙ НА ЗАНЯТКАХ.







Ел. НІНІНА

# Урыўкі ўспамінаў*)

## Пачатак

У 1888 г. сям'я Ўльянавых (сапраўднае прозвішча Леніна) пераехала ў Самару. Гэта быў ціхі гарадок, у якім не было ні фабрык, ні рабочых. Не было грунта для практычнай работы, але ў палітычных гуртках Уладзімер Ільіч быў самым актыўным членам і з думкамі яго лічыліся.

З 1893 г. Уладзімер Ільіч—у Пецярбурзе. Яго сярод рабочых ведаюць як Мікалая Пятровіча. Ведаюць таксама, што ён-жа Ульянаў, але ніхто не прагаворыцца аб гэтым. У некаторых мясцох ён Тодар Пятровіч, другія завуць яго „стары“, а сам ён часта падпісваецца „Цяпкін“. Многа было ў яго розных прозвішчаў. За ім сочаць, ганяюцца дзесяткі царскіх шпіёнаў, каб знайсці і пасадзіць у турму. Але Ўладзімера Ільіча ня так-то лёгка злавіць: ён па носе пазнае кожнага шпіёна.

Аднага разу ён ідзе на рабочы сход. Бачыць здалёк, што каля варот шпіёны круцяцца. Хутка заходзіць ён у суседні двор, садзіцца заместа дворніка. Настаўляе каўнер і нізка апускае шапку. Сядзіць і пасмейваецца з шпіёнаў—яму весела, ён не баіцца небяспекі.

Многа піша Ўладзімер Ільіч. Усё ім напісанае разыходзіцца па руках рабочых. Друкаваць нельга, царскія чыноўнікі не дазволяць.

Надзея Канстантынаўна—настаўніца аднэй школы, яна ходзіць па рабочых кватэрах і дзеліцца сваімі ўражаннямі з Уладзімерам Ільічом. Яны абмяркоўваюць усё разам, намячаюць планы работы.

Ствараецца пролетарская арганізацыя „Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа“. І ў самы разгар арганізацыі, у 1895 г., Уладзімера Ільіча арыштоўваюць.

## Абставіны не перашкаджаюць

У турме Ўладзімер Ільіч многа працуе, ня сумуе, што ён не на волі. Ён піша, чытае, усімі сіламі стараецца не парываць кіраўніцтва над створанай арганізацыяй.

Усялякімі спосабамі Ільіч стараецца наладзіць і трымаць сувязь з таварышамі — памочнікамі ў рабоце, што жылі на волі. У кніжках, якія пабывалі ў турме ў Ільіча, між радкоў па розных адзнаках таварышы ўважліва разбіралі ўказанні свайго правадыра.

## „Смачная страва“

Сястра прыносіла ў турму Уладзімеру Ільічу малако.

Уладзімер Ільіч рабіў з чорнага хлеба маленькія кубачкі з напарстак і наліваў у іх малако, потым звычайным пяром макаў у малако, пісаў між радкоў на кніжках.

*) Пачатак глядзі ў № 12 часоп. „Іскры Ільіча“.



... Афіцэр падаў бабцы малако ў гаршку. А неўзабаве над гаршком палаў агонь—гарэла забароненая літаратура.

— Чаму-ж ты не страляў? — запытала Надзея Канстантынаўна, калі лісіца адбеглася далёка.

— Вельмі - ж яна прыгожая была... — адказаў Ільіч.

У адзін з зімовых вечароў у кватэру Уладзімера Ільіча прышлі „госці" з рэвальверамі ля пояса.

Уладзімер Ільіч піў чай з селянінам.

„Госці" — царскія жандары—заявілі, што ім трэба пазнаёміцца з бібліятэкай.

Уладзімер Ільіч падаў афіцэру табарэтку, каб зручней было праглядваць кнігі на верхніх паліцах.

Надзея Канстантынаўна пераглянулася з маткай.

— Гаспадзін афіцэр, дайце мне, калі вам не цяжка, гаршок з малаком, што на верхняй паліцы стаіць.

Афіцэр падаў бабцы малако. Тая вышла з малаком у кухню. А неўзабаве полымя агню ўзвілося над гаршком — гарэла забароненая літаратура.

Афіцэр уважліва праглядзеў верхнія паліцы. Нічога не знайшоў. А калі ён дайшоў да ніжняй, Надзея Канстантынаўна сказала афіцэру:

— Вы кнігамі для настаўнікаў таксама цікавіцеся? На ніжняй паліцы мае кнігі, толькі школьныя.

Голас яе спакойны.

— Можна пакінуць,—сказаў афіцэр.

Вышлі.

А на ніжняй паліцы была ўся забароненая літаратура, за якую Уладзімеру Ільічу прышлося-б сур'ёзна адказваць.

Патрымаўшы гэтыя старонкі над агнём, таварышы лёгка чыталі ўказанні правадыра.

У шчылінку дзвярэй часта заглядваў вартавы, і Уладзімер Ільіч мігам глытаў „чарнільніцу", як толькі пачуе шорах за дзвярыма.

„Страва" была ня вельмі смачная, і прышлося аднойчы праглынуць шэсць чарнільніц"—апавядаў Уладзімер Ільіч.

## Гаршок з малаком

У 1897 г. Уладзімер Ільіч быў сасланы ў Енісейскую акругу. З ім была Надзея Канстантынаўна і яе маці.

Уладзімер Ільіч не пераставаў працаваць, не траціў сувязі з таварышамі, вельмі многа пісаў, знаёміўся з жыццём мясцовых сялян, якія адносіліся да яго з павагай.

У вольны час Ільіч найбольш любіў займацца паляваннем. Надзея Канстантынаўна часта хадзіла з Уладзімерам Ільічом на паляванне. Аднаго разу яна бачыла як блізка каля іх прабегла лісіца. Уладзімер Ільіч апусціў стрэльбу і, як зачараваны, глядзеў на лісіцу.

## Што гэта?

У Расіі рэволюцыя!

— Скарэй, як мага скарэй трэба ехаць!

— Куды ехаць?

— Трэба пачакаць.

Чакаць няма сілы. Едуць.

З вялікімі труднасцямі, але едуць у Расію.

Вось ужо руская гаворка на станцыях, рускія людзі.

Радуюцца ўсе.

— Пачакайце радавацца. Мы едзем проста ў турму, — ахалоджвае Ўладзімер Ільіч радасць.

16-га красавіка 1917 г. уночы — вакзал Пецярбурга.

— Смірна!

Многа рабочых з вінтоўкамі, у шэрых салдацкіх шынелях.

Ільіч зьдзіўлены.

І раптам:

— Ура!

Тысячы галасоў! Аркестр!

— Ур-а-а!—пракаціліся каля вакзала, коціцца і грыміць па пляцы.

— Ур-а-а-а!

— Што гэта? — дзівіцца Ўладзімер Ільіч.

— Гэта рабочыя і рэволюцыйнае войска вітаюць вас,—адказваюць яму.

---



## Яблыкі паспелі

Яблыкі паспелі,
І ўжо чуць віселі,
Светлыя і ясныя
Яблыкі чырвонаватыя.
Сёння акцябраты
Дружнаю брыгадай
Кошыкі пабралі
Яблыкі здымалі.
Яблыкі паспелі—
Самі з дрэў ляцелі.
Дзеці іх збіралі,
У скрынкі пакавалі.

М. КАЛАЧЫНСКІ.




Паляцелі ўсе пявучыя птушкі ў яркіх і стракатых убраннях. Як адляталі яны ў вялікую дарогу, мы не бачылі, бо адлятаюць яны ўночы.

Невялічкія птушкі стараюцца найбольш ляцець уночы—ад ворагаў спакайней. А дарогу на поўдзень пералётныя птушкі знойдуць нават з завязанымі вачыма. Крылатыя падарожнікі нават астаноўкі робяць на тых мясцох, што і ўвесну.

Кожны дзень, кожную ноч адпраўляюцца ў дарогу новыя чароды птушак. Ляцяць не спяшаючыся, павольна, з доўгімі астаноўкамі, ні то што вясною.

Першымі адлятаюць тыя птушкі, што пазней прыляцелі да нас вясною; апошнімі тыя, што былі першымі вястунамі вясны—жаваранкі, гракі.

Некаторыя з птушак, гракі, напрыклад, далёка на поўдзень не ляцяць. Яны спыняюцца ў нашым Крыму, дзе і зімуюць. Другія ляцяць у Афрыку і нават у Амерыку.

Многа розных няшчасцяў і прыгодаў чакае крылатых падарожнікаў у дарозе. Тысячы птушак загінуць ад драпежнікаў: ястрабаў, каршуноў, якія ляцяць за імі ўслед на сваю зімоўку і б'юць іх на ляту.

Падпільноўвае птушак у часе пералёту і чалавек: ён ловіць сілкамі, забівае са стрэльбы.

А больш за ўсё гіне птушак у моры. Густыя туманы засцілаюць дарогу крылатым падарожнікам. У сырым змроку птушкі губляюць дарогу, з размаху забіваюцца аб вострыя нябачныя здалёк скалы, забіваюцца аб маякі, святло якіх вабіць іх да сябе.

Морскія буры ломяць ім пер'я, збіваюць крыллі, заносяць далёка ад берагоў. Змораныя, знясіленыя птушкі падаюць і топяцца ў морскіх хвалях. Вялікімі чародамі садзяцца яны на палубы і снасці сустрэчных караблёў, забываючы свой страх да чалавека. І маракі не чапаюць іх, шкадуюць.

Стомленыя, з вялікімі стратамі далятаюць птушкі да сваіх зімовых кватэр у цёплых краінах. Там, па берагох вазёр, збіраюцца тысячамі птушкі розных парод. Ня так, як у нас, дзе ўсе птушкі жывуць паасобку. Там—кватэра ў птушак часовая, там нашы птушкі не спяваюць і ня ўюць гнёздаў, ім трэба толькі перажыць як-небудзь да таго часу, калі ў нас зноў пачнецца вясна.

# КАЗКА ПРА МУХУ, ПАВУКА, ВЕРАБ'Я І КАРШУНА



Быў сабе лес,
А ў лесе поўна
Прыгожых клёнаў
І дубоў,
І грабаў,
І бярозаў старых,
Што лісцём угары
Гулка-зычна шумяць
І у неба глядзяць.

* * *

Ды найбольшым
У тым лесе
Быў дзядуля — дуб,
На палянцы ён развесіў
Свой зялёны чуб.
А на дубе тым каршунік
Ў лісцях сабе жыў,
І гняздо для каршунятак
На тым дубе звіў.

* * *

Вось аднойчы
Памаленьку
На дубовы сук
Узабраўся яшчэ зранку
Пузаты павук.
І густую
Сетку тую
Звіў ён на суку.
Неўзабаве-ж к павуку
Прыляцела муха,
Муха-сакатуха.
І тут-жа, дзеткі,—
Бух! у сетку.
І звініць, і бубніць,
Што ёсць сілы,
Што ёсць духу,
А павук з'ядае муху.

* * *

Скуль не ўзяўся верабейка,
Жвавы канарэйка.
Скочыў ён на сук—
Бачыць: тут павук!
— Цвір, цвірэнь,
— Ціў, ціў, цэў!
— Я сягоння шчэ' не еў,
Я цябе даўно шукаў.
І схапіў ён павука.



* * *

Але раптам—што за ліха?
Штосці мчыцца, нібы віхар.
То каршун
Гаргатун
Як шугне з гары,
Як выставіць пазуры...
Не схаваўся верабейка
Шэры канарэйка.
Тут яму і канец!






Апавяданне Біянкі
Малюнак Г. Змудзінскага

Кожны год у ясны верасьнёўскі дзень можна наглядаць паветраны палёт на самым дзіўным знарадзе.

Сядзіць на галінцы павучок і думае: „Ці не паспрабаваць мне шчасця на павуцінцы?“

Падумаў так і зараз-жа нітачку з жывоціка выпусціў, за галінку мацней зачапіў яе, а сам насупроць ветра ідзе, ножкамі перабірае. Ідзе, нітачку тчэ,—вецер яе махае, ад галінкі адарваць ня можа.

Дайшоў павучок да канца галінкі, стаў, ногі выцягнуў, жывоцік падняў, нітка ў паветры пятлёю робіцца—даўжэй ды даўжэй. Пятля доўгая, доўгая выцягнулася. Ветрам яе махае—ніяк адарваць ня можа.

Дабег да нітачкі, дзе прымацаваў яе, раз-раз перагрыз яе—адпуска-а-й!

Вецер па полі гуляе, павуцінку падганяе—на павуцінцы павучок вісіць.

Ляціць павучок у паветры, як лёганькі шарык.

Раптам павярнула яго і проста на кусты панесла. Вось-вось зачэпіцца.

Падымай!—

Павучок скоранька павуцінку ткаць узяўся, пятлю спускаць. Пятля—шырэй і шырэй—павучок вышэй.

Высока, высока падняло павучка, панесла над кустамі. Ляціць паветраны шарык.

Ляціць павучок, сюды-туды гляне: спераду, ззаду, з усіх бакоў срэбраныя лёганькія нітачкі, на нітачцы шарыкі. Матляюцца яны ў паветры—шмат, шмат. Ад гэтага ўсё паветра срэбнае.

Унізе людзі ідуць, гавораць:

— Паглядзі адно, бабскае лета. Відаць восень пагодлівая настане—сухая, ды цёплая.

Раптам чарада чорных стрыжоў—вжжж.

Адпуска-а-ай!

Наш павучок ножкамі перабірае, павуцінку зматвае,—пятля карацей ды карацей, паклажа цяжэй,—павучок ніжэй, ніжэй, ніжэй...

Стоп!—зачапіўся.

Прыехалі.

На павуцінцы павіс павучок, захістаўся.

# На вуліцы

Апавяданне А. Цітавай

Зноў насталі ясныя, цёплыя асеннія дні. Больш двух тыдняў хмарна было, дажджы імжэлі, а сёння так цёпла, так радасна на дварэ.

Цёплае асенняе сонейка песціць сваімі праменнямі дрэвы і хаты, і зямлю, і дзяцей, што з вясёлым смехам і крыкам бягуць са школы. Разам з гэтымі дзецьмі бяжыць і Паўлюк. Здаецца, што твар яго асвятляе шмат сонечных праменняў—такі ён радасны і светлы.

Пад пахаю ў Паўлюка лемантар, на які ён часта пазірае сваімі вочкамі. І вочкі яго гараць радасцю і пяцікутная зорачка на яго грудзёх гарыць агнём, чырванее на сонцы.

О, колькі радасці, колькі гонару ў Паўлюка—ён разам са ўсімі ходзіць у школу. І ўсё навакольнае здаецца Паўлюку такім радасным, такім вясёлым. Нават невялічкая лужына, у якую зірнула сонейка і выбегла адтуль дробнымі праменчыкамі, паказалася Паўлюку нейкай светлай, вясёлай і глыбокай-глыбокай.

Насустрач вучням ідзе цётка Лукер'я. Яна глядзіць на дзяцей і радасна кажа:

— Так яно і ёсць,—калі на полі пуста, дык на вуліцах дзяцей густа. І, убачыўшы Паўлюка з кніжкаю, пытае:—што гэта і ты, Паўлючок, ужо ў школу ходзіш?

— Ужо, вучуся, бабулька, ужо,—весела адказвае Паўлюк і яшчэ мацней прыціскае кніжку да свайго халаціка.—Вось лемантар у мяне ўжо, гляньце які.

Бабулька пайшла сваею дарогаю, а дзеці вясёлыя пабеглі па хатах.

Павольна, ціха ападаюць чырвона-жаўтаватыя лісточкі з дрэў. Кружацца і блішчаць яны на сонцы. Ясны, радасны асенні дзень.



# СКАРГА

Апавяданне А. Дыла
Малюнкі В. Тіхановіча

Сёння ў школе настаўніца выдала ўсім вучням новыя падручнікі. Якія яны чысценькія, у прыгожых вокладках! І малюнкі ў чытанцы цікавыя, цікавыя.

На сябе і на Ціму атрымаў чытанку Антонік. Прышоўшы дахаты Антонік пачаў разглядаць малюнкі. „А што,—думае ён,—калі замаляваць іх — прыгажэйшаю будзе кніга. Праўда, настаўніца казала, каб кніжак не пэцкаць, бо на другі год па іх яшчэ будуць вучыцца дзеці. Але Антонік і не збіраецца пэцкаць малюнкі, ён толькі трошкі падмалюе.

За працай не заўважыў Антонік як хутка праляцеў вечар, як надышла пара спаць. Лёг Антонік з думкаю аб кніжцы і заснуў. Смачна і ўтульна спіцца Антоніку пад цёплаю коўдраю.

І раптам чуе Антонік: тук... тук... тук...

Усхапіўся з ложка, падбег к вакну. „Што за дзіва? Чаго трэба?“



І Антонік пачаў падфарбоўваць малюнкі.

Бачыць—пад вакном стаіць яго таварыш Адзік ды кліча:

— Антонік, хутчэй апранайся, чаго ты спіш так позна. Сягоння-ж раніцаю сход важатых зорачак.

Хутка апрануўся Антонік і паціханьку вышаў з дому. Увайшлі яны ў прасторны пакой школы—бачаць сход пачаўся. На лаўках сядзяць усе важатыя зорачак, акцябраты, а за сталом у прэзідыуме нейкія незнаёмыя дзеці.

Антонік і Адзік селі на апошняй лаўцы.

— З якой школы гэтыя дзеці, што за сталом сядзяць, ці не дэлегацыя якая?—пытае Антонік у Адзіка.

— Не... Не ведаю, — пільна ўглядаецца Адзік.

Праходзіць яшчэ некалькі хвілін. Уважліва глядзіць Антонік і ніяк пазнаць не можа— хто-ж гэта ўсё такі за вучні. Імёны нейкія дзіўныя ў іх: Задачнік, Чытанка, Лемантар.

— Сход лічу адчыненым,—сказаў Задачнік,—слова мае Лемантар.

Маленькі хлопчык, што зваўся Лемантаром, узлез на крэсла і тоненькім голасам хутка загаварыў:

— Слухайце, я заяўляю скаргу. Сёння са мною адбылося няпрыемнае здарэнне. Настаўніца дала мяне аднаму хлопчыку, а ён прынёс мяне дадому, палажыў на стол, перагартаў некалькі старонак, паглядзеў малюнкі і, пакінуўшы мяне на стале, пабег гуляць. Яго маленькая сястрычка пачала гуляць са мною і... ад мяне, як бачыце, засталася цэлаю толькі вокладка. За адзін дзень я стаў калекай.

Сумна схіліўшы галаву, ён сеў.

На крэсла ўсаскочыла Чытанка.

— Мяне атрымала Зося. Зося добрая вучаніца, але яна любіць чытаць у часе яды. Вось і сёння села Зося абедаць, разгарнула кніжку і не бачыць як льецца з лыжкі страва на мае старонкі. Таму я і брудная такая, уся ў плямах. На будучы год ніхто не захоча мяне чытаць.

— А я, — сказаў Задачнік, — так зацікавіў свайго гаспадара, што ён адразу, як прышоў са школы пачаў развязваць задачы. Але чарніла ён паставіў так, што абмакнутае пяро пераносіў праз мяне. І на першай-жа старонцы пасадзіў вялікую сінюю пляму. Спужаўшыся, ён махнуў кніжкаю і яшчэ больш запэцкаў, а тады паслініў палец ды пачаў церці пляму і... працёр навылёт.

— А мяне,—зірнуўшы на Антоніка, загаварыла Чытанка другое групы,—прыгожа размаляваў адзін вучань. Але не ведае ён, што праз некаторы час фарба на малюнках расплывецца па ўсёй старонцы і тады нельга будзе чытаць надрукаванае. А кніжка будзе мець няпрыгожы, неахайны выгляд...

Ад гэтых слоў Антонік не стрымаўся, усхапіўся з лаўкі і загаварыў:

— Гэта... гэта я замаляваў чытанку, але я не ведаў, я думаў, што будзе прыгажэй так. А цяпер я сам буду змагацца за чыстую, акуратную кніжку, і выклікаю ўсіх вучняў шанаваць свае падручнікі. Таксама ўношу прапанову: няхай нашы бацькі зробяць дома для нас, вучняў, асобную палічку, ці скрыначку, дзе мы зможам хаваць нашы кніжкі і сшыткі.



За сталом у прэзідыуме сядзелі дзеці з дзіўнымі імёнамі...

— Будзем беражліва адносіцца да кніжак!—мацней звычайнага выгукнуў Антонік.

— З кім ты гаворыш, Антонік? Уставай, пара ў школу ісці,—будзіць маці сына,—снеданне даўно гатова.

Усхапіўся Антонік.

— А... дык гэта быў сон, а не сапраўдны суд над намі.—І, успомніўшы аб пафарбаваных у сваім падручніку малюнках, занепакоіўся.—Што я цяпер скажу настаўніцы, чым я апраўдаюся? Ён яшчэ раз перагартаў кніжку, паснедаў і пашоў у школу.

---

**Рабята! А як вы захоўваеце падручнікі? Ці чыстыя яны ў вас? Ці няма ў вашай школе такіх, як Антонік? Абгаварыце гэта адпавяданне ў сваёй групе. Шануйце кніжкі!**



# ЯНКА ІНЖЫНЕР

З паэмы А. Безыменскага
Малюнкі Н. Гусева

I

У Юркі—гарматы,
Штыхі і салдаты...
Затое—
ня тое
У Янкі, сябры:
Трамваі, дрэзіны,
Маторы, машыны...
І ўсё з завадною
Спружынай ўнутры!

Ён будзе вядомым
Савецкім вучоным—
Ня дарам-жа бацька яго
Інжынер.
Ён часта гамоніць,
Што бацьку дагоніць,
Бо той—беспартыйны,
А ён—піанер.

Вядома, навука
Не лёгкая штука...
За тое, як пройдзе
Адзін толькі год—
Убачыце, людзі,
Як Янічка будзе
У бубен склікаць
Свой атрад у паход.

II

Трава зелянее
І сонейка грэе.
На вуліцу Янічку
Кліча яно.
Дарма! Ён ня чуе—
Ён шпарка будуе
Велізны завод,
Што задумаў даўно!

Работы не мала,
Але шанцавала,
Што Янічка ў хаце
Адзін, без сястры:
Няма перашкоды,
Як гэта заўсёды,
І Янка паставіў
Усё дагары.

Сталы перакінуў,
Усе кубікі выняў,
Аднекуль фанеры
Таўшчэзнай прынёс.
І быццам па слову
Пачаў пабудову—
Аж носам сапе,
Так як той паравоз!

На доўгай фанеры
Ён вокны і дзверы
Назначыў вуглём—
Вось і сцены стаяць!
А даху ня трэба
Хай свеціцца з неба!
І лепей, бо праца
Адразу відаць.

У сярэднюю браму—
Машыну-дынаму,
Знадворку слупы,
Каля сцен верстакі.
А з кубікаў звыкла
Ён коміны выклаў.
Глядзі і дзівуй—
Вось ён майстра які!

О! Яначка быстры:
Ён з моцнае ніткі
Праводку вядзе
Па слупох, так як кот.
Як пойдуць маторы—
Праз рэчку і горы
Падасць электрычнасць
У вёску, завод.

Высока, без меры
З чырвонай паперы
Ён вывесіў сцягі,
Апалу паддаў.
Агледзеў машыны,
Наладзіў спружыны,
На крэсла узлез
І прамову сказаў.

Вось мост цераз воду,
Вось рэйкі к заводу,
Вось поезд імчыцца,
Вось звоніць трамвай...

Гатова, гатова
Уся пабудова!..
За працу, рабочы!
Не спі! Не зявай!

*З рускае пераклаў* **А. Зіміонка.**

Малюнкі Е. Самятыгі



# Так было

**Апавяданне з мінулага**

I

Косцік жыве ў сутарэнні. Сонейка да іх ніколі не заглядвае. У пакоі сырасць, пахне бялізнаю, што маці людзям мые.

Косцік з сястрой і братам гуляюць у кутку.

Цацак у іх няма, іншы раз кіёчкі, трэсачкі і вяровачкі знойдуцца, тут яны і каня змайструюць і вупраж зробяць.

На вуліцу зімою рэдка ходзяць: вопратка дрэнная і абутак дзіравы.

Бацька з работы прыходзіць позна вечарам. Прыдзе дахаты, кашляе, кашляе, і есці яму ня хочацца, толькі чаю нап'ецца.

Прыціхнуць дзеці: шкода бацькі.

І бацька іх шкадуе, кожны раз, як грошы за работу атрымае, гасцінца прынясе: пернікаў, цукеркаў, а іншы раз і яблыкаў купіць. Ласкавы з дзецьмі бацька, калі лягчэй яму стане.

Доктар кажа: „На сонца-б яму, на вольнае паветра, малака піпіць". Але выехаць нельга—зусім тады адправяць з фабрыкі, разлічаць. Бацька праз сілу працуе.

Работа цяжкая, дзесяць—дванаццаць гадзін у суткі, а ў памяшканні пыл, бруд. Фабрыкант не клапоціцца аб рабочых, яму абы толькі прыбытак добры меў.

К вясне бацьку зусім дрэнна стала. Завезлі яго ў бальніцу. Нядоўга ён там праляжаў—памёр, пакінуўшы дзяцей сіротамі.

Плакалі дзеці, калі бацьку хавалі, а маці, як мёртвая, кінулася на свежую магілу.

II

Бацьку пахавалі, а жыць трэба. Пайшла маці ў кантору, просіць:

— Дапамажэце дзяцей падгадаваць. Нябожчык на фабрыцы здароўе страціў, пятнаццаць год сумленна працаваў.

Адмовілі матцы, кажуць:

— У нас такога закону няма, каб сіротам дапамагаць. Бяры вось на пахаванне пятнаццаць рублёў ды ідзі адгэтуль. Твае дзеці—сама пра іх і клапаціся.

Старалася, старалася маці, чатырох дзяцей пракарміць трудна. Упрасіла брата ўзяць дзевяцігадовага Косціка ў вёску: ён у гаспадарцы дапаможа і за харчы адпрацуе.

III

Прыехаў Косцік да дзядзькі вясною. Добра ў вёсцы: рэчка, лес, ягады, на начлег хлопцы едуць—песні пяюць. Раздолле—куды больш, як у горадзе. Толькі з ядою дрэнна. Бульбы і тае не хапала. А пра другое што—і не ўспамінай.

Сям'я ў дзядзькі велікая. Працуюць усе ад рання да познага вечара, а нястача з хаты не выходзіць. Мала зямлі ў сялян: лугі, лес, выган—усё ў памешчыкаў. За ўсё трэба заплаціць ці адпрацаваць.

Хацінка ў дзядзькі лядаштая, цесная, цёмная, а ў памешчыка дом на ўзгорку з прыгожымі ганкамі, балконамі.




**„... У нас такога закону няма, каб сіротам дапамагаць“,—сказалі ў канторы.**

Калі Косцік праганяе каля маёнтка стада, бачыць, як па роўненькіх дарожках гуляюць з нянькаю прыгожа прыбраныя дзеці. Каля дому кветкі, шары срэбныя. Вось дзе пагуляць-бы... Але дзе там!.. Туды вясковых не пускаюць, не для іх гэта.

IV

Пачала маліна паспяваць. Дзеці збяруцца гурбою ды з кашолкамі ў лес. А лес вялікі, цёмны. Дзеці адзін другога пільнуюцца, не разыходзяцца далёка—боязна. Натрапяць на маліну, рукі крапівою паапекаюць, паколюць іх, а ўсю да ягадкі вызбіраюць.

А маліна пахучая, салодкая так і вабіць. Ніколі Косцік у горадзе маліны не еў. І хочацца ягадку з'есці і шкода: трэба як найбольш назбіраць, дзядзька ў горадзе прадасць.

Назбіралі дзеці поўныя кашолкі ягад, самі ў ахвоту нaеліся, дахаты збіраюцца.

Раптам забрахаў сабака і кінуўся на дзяцей. Дзеці на яго з кійкамі.

— Ату, ату — у... — закрычаў хтосці з кустоў.

Вышаў пан, у яго стрэльба за плячыма, ды на дзяцей калі закрычыць:

— Вам хто дазволіў маліну збіраць у маім лесе?

Маўчаць дзеці.

— Я вас пытаю!—злуецца пан.

— Дзядзечка, мы не ведалі, што гэта твая маліна,—сказаў Косцік.

Пан яшчэ больш раззлаваўся.

— А чыя-ж, твая, ці што? Вы павінны дазвол у канторы браць, а за гэта мне па пяць кубкаў маліны з чалавека прынесці. А за тое, што вы самавольна пайшлі ў лес, аддавайце цяпер мне ўсю маліну.

Дзеці пераглянуліся, бачаць — дрэнная справа, моўчкі пайшлі за панам у маёнтак. Дахаты вярнуліся з пустымі кашолкамі.

— Пачакай, дармаед!—пагражалі мужчыны,—будзе і на нашай вуліцы свята.



**„Хто вам дазволіў маліну ў маім лесе збіраць?“— крычаў пан.**

Л. Н. Толстой

# ЛЕЎ І САБАЧКА

(Апавяданне)



У Лондане паказвалі дзікіх звяроў і за прагледзіны бралі грашыма, або сабакамі ці кошкамі на корм дзікіх звяроў.

Аднаму чалавеку захацелася паглядзець звяроў; ён схапіў на вуліцы сабачку і прынёс яго ў звярынец. Чалавека пусцілі глядзець, а сабачку ўзялі ды кінулі ў клетку, каб леў з'еў яго.

Сабачка падцяў хвост і прытуліўся ў вугал клеткі. Леў падышоў да яго і панюхаў.

Сабачка лёг на спіну, падняў лапкі і стаў віляць хвосцікам.



Леў крануў яго лапаю і перакуліў.

Сабачка ўсхапіўся і стаў перад львом на заднія лапкі.

Леў глядзеў на сабачку, паварочваў галавою з боку на бок і не чапаў яго.

Калі гаспадар кінуў льву мяса, леў адарваў кавалак і пакінуў сабачку.

Вечарам, калі леў лёг спаць, сабачка лёг каля яго і палажыў сваю галаву яму на лапу.

З тае пары сабачка жыў са львом. Леў не чапаў яго, еў корм, спаў з ім разам, а іншы раз гуляў з ім.

Аднаго разу прышоў пан у звярынец і пазнаў свайго сабачку; ён сказаў, што сабачка яго ўласны і папрасіў гаспадара

звярынца аддаць яму. Гаспадар хацеў аддаць, але як толькі пачалі клікаць сабачку, каб узяць яго з клеткі, леў ашчэрыўся і зароў.

Гэтак пражылі леў і сабачка цэлы год у адной клетцы.

Праз год сабачка захварэў і здох. Леў перастаў есці, а ўсё нюхаў, лізаў сабачку і дакранаўся да яго лапаю.

Калі леў зразумеў, што сабачка памёр, ён раптам ускочыў, ашчэрыўся, пачаў біць сабе па бакох хвастом, кінуўся на сцяну клеткі і пачаў грызці засаўкі і падлогу.

Цэлы дзень ён непакоіўся, кідаўся па клетцы і роў, потым лёг побач з мёртвым сабачкам і змоўк. Гаспадар хацеў вынесці



мёртвага сабачку, але леў нікога не падпускаў да яго.

Гаспадар думаў, што леў забудзецца на сваё гора, калі яму даць другога сабачку і пусціў да яго ў клетку жывога сабачку; але леў адразу разарваў яго на кавалкі. Потым ён абняў сваімі лапамі мёртвага сабачку і так ляжаў пяць дзён.

На шосты дзень леў памёр.



Малюнкі А. Шахрая




## якая лятала... плавала і [illegible]

### I

З гэтай елкай, пра якую я хачу расказаць, трапляліся розныя здарэнні.

Яна і па рацэ плыла, і па лёдзе каталася, і на трактары ездзіла і ў паветры лятала.

Яна пабывала і ў Маскве, і ў Беларусі, і ў Сібіры.

Яна не стаяла ціха, а крычала, вучыла няпісьменных, гаварыла прамовы, спявала песні.

Яна ваявала з гультаямі, з прагульшчыкамі, змагалася з усімі нашымі ворагамі.

Калі аб усім расказаць, дык трэба напісаць цэлую кніжку. Але вам я раскажу толькі самае галоўнае.

### II

Мая елка, як вядома, расла ў лесе. Ад лесу да рэчкі было далёка—кілометраў трыццаць. Але, калі-б і блізка было, усёроўна елка сама да рэчкі не дайшла-б. Сюды прывёз яе трактар.

Бярвенні звалілі на бераг. Тут елка і засталася. У раку яна трапіла праз некалькі месяцаў. Вясной разлілася рэчка, на беразе якой ляжала елка, і падняла бярвенні. Памчалася наша елка ўніз па рацэ. Пры ўпадзенні гэтай рэчкі ў другую была лясная прыстань. Тут бярвенні лавілі і вязалі ў плыты. Наша елка папала ў вялізны плыт. Плытагоны прырабілі да яго вялікі руль, з доўгай ручкай, пабудавалі пасярэдзіне плыта будку, узялі ў запас чайнікі, кацялкі, харчы. Заместа печкі паставілі скрынку з пяском, каб можна было агонь раскладваць, кашу варыць.

Пайшоў плыт па рацэ.

Міма праходзілі параходы, траплялся лодкі. На заваротах плытагоны ўсёй арцеллю налягалі на руль, паварачвалі свой драўляны плывучы хвост, куды патрэбна было.

Раптам наляцела бура. А гэта было ўжо ўвосень. У адну ноч на рацэ разбіла дзесяць плытоў і шэсць выкінула на бераг. Той плыт, у якім была наша елка, папаў на мель. Два дні біліся плытагоны і не маглі зрушыць плыт з месца.

Што тут рабіць? Хутка рака стане. Умерзне плыт на лёдзе,—да вясны яго не выцягнеш. А ў газетах пішуць: ніводнага бервяна не пакінуць у вадзе на зіму; нашай краіне вельмі патрэбны бярвенні.

Урэшце прышоў параход—буксір. Сяк-так выцягнуў плыт і прывёз яго да завода. Прыплыла і наша елка.

III

На беразе ракі, у тым месцы, куды параход прыцягнуў плыт, стаялі дзве высокія жалезныя вежы. Паміж вежамі быў нацягнуты на вялікай вышыні жалезны шнур. А па шнуру ўзад і ўперад бегаў вазок з крукам, на доўгім ланцузе; і вось гэты вазок панёс нашу елку ў паветры. Справа была так: елку разам з сотняй іншых бярвенняў звязалі ў адну звязку і прычапілі да крука. Машыніст у аднэй вежы ўключыў электрычны ток. Звязка бярвенняў паціху вылезла з вады і пачала падымацца ўверх. Стой! Машыніст павярнуў вагар і вазок пабег па шнуры з аднаго канца ў другі...

Стой! Давёз вазок бярвенні да канца і спыніўся. Гойдаецца цяжкая вязка бярвенняў у паветры.

Машыніст у вежы павярнуў другі вагар і вязка бярвенняў паціху спусцілася на зямлю.

Вандраванне нашай елкі ў паветры скончылася. Так яна ў першы і апошні раз лятала ў паветры.

IV

Цэлы год праляжала елка там, дзе яе палажылі, высахла, стала лёгкая. І вось аднаго разу схапілі елку цэпкія лапы пад'ёмнага крана і пацягнулі на завод. А тут узялі нашу елку ў работу.

За паўгадзіны адна машына садрала з яе кару, другая машына пасекла яе на трэскі, трэцяя машына прасеяла яе праз рэшата, чацвертая машына панесла яе на самы верх завода і кінула ў вялізны кацёл ростам з трохпавярховы будынак.

Змяшалася наша елка з іншымі елкамі, таксама пасечанымі на трэскі. І раптам з боку палілася ў кацёл атрутная кіслата і заліла трэскі да самага верху. Па тоўстай белай трубе пусцілі ў кацёл гарачую пару і атрымалася каша з дрэва і кіслаты.

Цэлых шаснаццаць гадзін булькала і кіпяцілася драўляная каша ў катле. Усё мякчэй і мякчэй рабіліся яловыя трэсачкі.

Тое, што рабіла іх цвёрдымі і ломкімі распускалася ў кіслаце.

І нарэшце, кіпячэнне скончылася, майстар загадаў выпусціць з катла пару.

V

Для чаго елку кіпяцілі ў катле? А вось, слухай. Вандраванне елкі не скончылася. Размоклыя яловыя трэскі паехалі з катла далей—зноў з машыны ў машыну. У аднэй машыне іх растрапалі на валокны, у другой машыне размалолі і змяшалі з вадой. Атрымалася рэдкая каша.

Пацякла гэта яловая каша па трубе ў апошнюю машыну, у самую вялікую на фабрыцы.



... Наша елка папала ў вялізны плыт.

Папала яловая каша ў машыну і памчалася па ёй вельмі хутка. За адзін момант яе разгладзілі, выраўнялі, выціснулі, высушылі, выгладзілі. І ведаеце, што атрымалася?

Атрымалася папера. Вось для чаго секлі елку. Вось для чаго яна плыла па рацэ, лятала ў паветры і вандравала з машыны ў машыну.

А потым, калі яна ўжо зрабілася паперай, на ёй надрукавалі газету. Адзін кавалачак елкі папаў у газету, якую чыталі ў Маскве, другі паехаў у Сібір, а трэці трапіў у Менск. Частка гэтай елкі папала і ў часопісь, якую вы зараз чытаеце.



Кавалак елкі папаў у газету...



Наступілі асеннія дні. Далёка разносіцца гул малатарняў у ваколіцах соўгасаў і калгасаў. Ідзе малацьба звезенага, убранага з палёў збожжа.

— Здаць дзяржаве своечасова. — Вось галоўная задача перад усімі соўгасамі, калгасамі, перад усімі малацьбітамі.

# ВАДАПРАВОД

Апавяданне М. Талмачовай

Прыехаў Васілька з вёскі да цёткі сваёй у Менск. Вечарам маці сказала сваёй сястры, Васількавай цётцы:

— Трэба будзе заўтра з Васількам у лазню схадзіць.

А Васілька паглядзеў скоранька ў вакно ды і кажа адразу:

— У якую лазню? Тут-жа і рэчкі нідзе няма.

Засмяялася цётка:

— Ну, гэта ты не ўгадаў, рэчка тут ёсць і вялікая нават. А ваду ў нас бяруць не з рэчкі, а з вадаправода.

— З якога?

— А ты не бачыў, хіба?—зацікавіўся дваюрадны брат Сяргей. Ён у момант саскочыў з месца, пакруціў на сценцы кран і адтуль зараз-жа з шумам пабегла вада. Васілька ад здзіўленьня аж вочы вытрашчыў.

— Хто-ж яе туды наліў?—нясмела спытаў ён.

Сяргейка аж зайшоўся ад смеху:

— Хто? Вядро на страсе стаіць, а адтуль і цячэ вада сюды.

— Што ты маніш, Сяргейка! Не гавары глупства,—накрычала цётка на сына, а тады да Васілька:— Вось гэта і ёсьць вадаправод, любы мой. Вада па трубах з рэчкі ідзе, яе ў трубы машынамі адмысловымі напампоўваюць, ачышчаюць ад бруду.



... А тут пакруціў кран—вада бяжыць.

— Дык у вас ваду самі не носяць на каромыслах?—нясмела спытаў Васілька.

Сяргейку зноў дзіўна стала з такога пытання.

...Паабедалі. Цётка памыла пасуду і ўсе вышлі з кухні. А Васілька гэтым часам пабег к крану: цікавіць яго вадаправод. Ай-ёй як цікавіць!

Дома маці заўсёды казала: „не лі без патрэбы вады!" І Васілька ведаў чаму крычыць маці: ёй так цяжка насіць ваду з крыніцы. А жылі яны ад крыніцы далёка—можа дзвесце метраў будзе. А тут—крутнуў: вада.

Вельмі-ж захацелася Васільку паспрабаваць, як гэта вада сама бяжыць. Ён прыставіў бліжэй крэсла і сяк-так трошкі пакруціў кран. Вада зараз-жа палілася тоненькім цурком. Крутнуў яшчэ — хлынуў струмень. Спалохаўся Васілька, хацеў закруціць назад, ды не ведае ў каторы бок. А вада ўсё напаўняла ракавіну.

— Ты што робіш? На што кран адкруціў?—раптам пачуў ён за сабой голас. Гэта крычаў Сяргейка.

Сяргейка падбег і ў момант закруціў кран, падхапіў адною рукою Васілька і паставіў яго на падлогу.

— Я хацеў толькі паглядзець, што гэта за вадаправод, — апраўдваўся Васілька, бягучы да свае маткі ў другі пакой.



Дома маці насіла ваду з крыніцы.

# ГАДЗІННІК



Любіць Рыгорка гадзіннік разглядаць. Дзіўна яму, як гэта маятнік увесь час цікае і цікае. Апусцяцца гіры нізка, — падцягне брат Міхась вышэй іх, і гадзіннік бесперапынна ідзе і ідзе.

Хочацца разглядзець як найлепш, даведацца з чаго і як зроблена кожная частачка. А бацька або маці, ці яшчэ хтось з сям'і, адразу-ж на Рыгорку:

— Не чапай, а то сапсуеш.

— Я і не чапаю,—апраўдваецца Рыгорка.

— Адыдзіся і займіся чым-небудзь.

І от аднаго разу рашыў Рыгорка заняцца карыснай работай—зрабіць гадзіннік.

— Тады пабачаць і бацька, і маці, і брат, што я і намеру не меў псаваць гадзіннік, а толькі прыглядаўся, вывучаў яго, каб самому такі-ж зрабіць,—думаў ён.

Сеў Рыгорка за работу, узяў карандаш, ножніцы, карабок ад запалак, адну запалку, кавалачак ніткі, кавалачак картону (вокладку ад старой кнігі).

А цяпер глянце на малюнкі, як рабіў гадзіннік Рыгорка, як вырэзваў ён усё з картону.

На малюнку № 1—задняя сценка гадзінніка; малюнак № 2—маятнік; на малюнку № 3—гіры. Яны не круглыя, але гэта бяда невялікая (можна зрабіць і круглыя—з кіёчкаў). Малюнак № 4—дзве стрэлкі (гадзінная і мінутная); малюнак № 5—пярэдняя сценка, на ёй Рыгорка намаляваў цыферблат, які паказаны на малюнку № 6.

Затым Рыгорка ўзяў парожні карабок ад запалак і ва ўнутраной частцы яго пракалоў цвікам дзве дзірачкі, туды ён зацягнуў нітку і прывязаваў гіры (глядзі малюнак № 7). Зачыніўшы зноў карабок, ён пракалоў у ім дзірку наскрозь (малюнак № 8).

Прыгатаваўшы ўсе гэтыя часткі, Рыгорка ўзяўся складваць гадзіннік, пільна прыглядаючыся, каб дзірка прыходзілася насупроць дзіркі. Спачатку ён палажыў на стол заднюю сценку гадзінніка (малюнак № 1), а на яе—маятнік (малюнак № 2).

Затым карабок з гірамі (малюнак № 8), а наверх палажыў—сценку з цыферблатам. Цяпер Рыгорка, трымаючы запалку за галоўку, туга надзеў на яе дзве стрэлкі (спачатку мінутную, а на верх гадзінную) і праткнуў запалкаю ўсе часткі: цыферблат, карабок з гірамі, маятнік і заднюю сценку.

Гадзіннік зроблен. Павесіў яго Рыгорка на сцены і радуецца. Праўда, ён вышаў несапраўдны, не такі як той, што на сцены ў іх вісіць, але ўсё-ж падобны.

Рабята, цяпер вы ведаеце, як Рыгорка рабіў гадзіннік, паспрабуйце зрабіць самі.

# ПАДУМАЙ

## ЛАБІРЫНТ



Бяжыць па зайчыкавых слядох сабака, заахвочвае яго здабыча. Вось-вось дагоніць ён зайца. І раптам... спыніўся: перад ім быў лабірынт, а ў цэнтры яго—зайчык.

Абабег Бобік кругом, аглядзеў — чацвера варот мае лабірынт, але не кожныя вароты вядуць у цэнтр да зайца.

Ведае Бобік, калі ён пойдзе праз няправільныя вароты — зайчык уцячэ правільнаю дарогаю назад.

Пашукайце праз якія вароты павінен ўвайсьці Бобік, каб злавіць у лабірынце зайца.

## ЗАГАДКІ І ЗАДАЧЫ



1. Звонка я молатам б'ю
   Усё кую, кую, кую.
   Сцеражыся мяне, сталь,—
   Знаеш, спрытны я...
2. Ні звер, ні птушка, а нос як спіца.
3. Шавец,—ні шавец; кравец, — ні кравец: трымае ў роце шчаціну, у руках—нажвіцы.
4. Што скарэй за ўсё.
5. Сястра да брата ў госці ідзе, а ён ад яе хаваецца.
6. Кравец мае скрутак сукна ў 16 метраў даўжыні. Кожны дзень ён адразае па 2 метры. Праз колькі дзён ён адрэжа апошні кавалак?

# ЯК ЛЮДЗІ ВУЧЫЛІСЯ АРАЦЬ



1. Першыя земляробы апрацоўвалі зямлю кійком, драўлянымі крукамі, потым матыкаю. Маруднаю і цяжкаю была гэта работа.



2. Прашло шмат год. З'явілася нявольніцтва і паны сталі запрагаць у матыку - плуг нявольнікаў, а каб яны аралі скарэй—гаспадар падганяў іх біззуном.



3. А вось 300—400 гадоў таму назад аралі ўжо такімі драўлянымі плугамі. Плугі гэтыя былі вельмі цяжкія—у іншы плуг запрагалі 8 валоў.



4. Да рэвалюцыі ў Беларусі аралі вось так. У сялян-беднякоў не было грошай на машыну. Машыны былі толькі ў памешчыкаў ды ў кулакоў. А на трактарах тады і зусім не працавалі.



5. А цяпер вось так аруць у нашых соўгасах і калгасах. На дапамогу каню прышоў трактар.



6. На гэтым малюнку—электраплуг. Ім будуць апрацоўваць зямлю ў нашых соўгасах і калгасах, калі ты будзеш вялікім.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2082. У ліку 3580. Галоўлітбел № 1100.